КРЫВІНКА

ВЕРАСЕНЬ
№15 (259)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# НАТАТКІ З НАГОДЫ АДНОЙ ПАЕЗДКІ

**У верасні 2020 года жанчыны з Бешанковічаў з'ездзілі ў Мінск на канцэрт. Канцэрт гэты быў незвычайны. Патрэбу ў ім агучыў адзін высокі чыноўнік, які сёння канчаткова згубіў давер у вачах беларускага люду. І яму сёння крайне патрэбна карцінка «усенароднай любові».**

Многія з турыстаў, якія з'ездзілі на канцэрт у Мінск, былі ў камісіях на выбарах. То-бок, яны стваралі «элегантную перамогу». Іншыя — група падтрымкі, працаўнікі бібліятэк, садкоў, на чале з ідэалагічным босам нашага раёна.

Ім была даведзена разнарадка — падтрымаць. А гэта — не абмяркоўваюць.

Хаця сярод бешанковіцкіх турыстак былі і тыя, хто супраць гэтага рэжыму, і я ведаю тое дакладна. І мяне гэты факт радуе найбольш: аказваецца, можна быць чыноўнікам — нармальным!

Яны кажуць, што яны — за мір, спакой і стабільнасць. Дык мы — таксама за тое. Але мы не за той мір, які дабываецца міліцэйскімі дубінамі, якія прапаведваюць штатныя КДБісты. Мы не за той спакой, які пануе на могілках. Мы не за тую стабільнасць, якая плаўна перацякае з 26 гадоў нязменнага кіраўніцтва ў нявызначаную бясконцасць гарантаванага застою.

Яны канстатуюць, што яны сёння маюць усе ўмовы развіцця. Гэта так. Большасць «ябацек» займае розныя высокааплачваемыя дзяржаўныя пасады. (Акрамя таго, і гэтая паездка, і канцэрт былі для бешанковіцкіх турыстак — без сумневу — за народныя грошы.) Для нас жа з году ў год цягам дзесяцігоддзяў яны агалошваюць мяжу мары — «па пяцьсот». І тая мяжа будзе бясконца аддаляцца.

Яны аддзеленыя ад нас высокай сцяной Гэта сцяну стваралі не мы. Не мы выбіралі тых, хто намі кіруе. Не мы стваралі спісы невыязных, нязгодных, тых, каго нельга дапускаць на розныя мерапрыемствы, імпрэзы, канцэрты. Не мы вырашаем, якая «правільная» песня павінна гучаць са сцэны, з радыё, на канцэрце.

Але мы сёння ўжо не тыя.

Нашая моладзь сёння — не марыянеткі ў чужых руках. Як паказалі апошнія падзеі, наша моладзь лепш за дзяржаўных ідэолагаў разбіраецца, дзе праўда, а дзе хлусня.

Той, хто хацеў бы кіраваць вечна, думаў, што ён усё перайначыў канчаткова: адабраў і растаптаў нашу мову, зачыніў беларускія школы, знішчыў нацыянальныя сымбалі, забараніў усё роднае. Але ён моцна памыліўся.

І мы вернем усё, якой бы тытанічнай працы тое ні каштавала.

Ваш савецкі чырвона-зялёны сцяг — таксама частка нашай гісторыі. Але ў адрозненне ад «ябацек» мы не імкнёмся яго знішчаць ці забараняць. Але ж мы ведаем дакладна, што мы БЕЛЫЯ РУСЫ, а не зялёныя. І спрадвечны колер нашых строяў — белы. І наш бел-чырвона-белы сцяг такі ж каштоўны для беларусаў і мае права быць высока ўзнятым.

Я ўсё думаю, якое ж галоўнае адрозненне паміж намі і імі?

Мне падаецца, вось якое: мы не верым ні слову таму, хто хацеў бы кіраваць вечна. Бо ён хлусіць на кожным кроку. Вялікая і маленькая хлусня парадніліся і жывуць на БТ і ОНТ, у СБ і раённых газетах. На кожным іхнім паседжанні, у кожнай паперцы, што ствараецца імі.

Бо там працуюць ягоныя марыянеткі. Тыя, хто прамяняў шчаслівае жыццё ўсёй краіны, на сваё асабістае.

**Г.Станкевіч**

# "ПАЧУЙ НАШЫ ПАЦЕРЫ, БОЖА..."

*Пачуй нашы пацеры, Божа,*
*дай волю і сілы нам дай*
*зысьці найхутчэй з раздарожжа,*
*ад прорвы адвесьці наш край.*

*Прачнуцца няхай, хто драмалі,*
*хто здольны наперад ісьці.*
*Зрабі, каб сваё атрымалі*
*ўсе злыдні яшчэ пры жыцьці!*

**Г.Станкевіч**



ВІЗІТ

# НАС НАВЕДАЎ АБЛАСНЫ ЧЫНОЎНІК…

**У Бешанковіцкі раён нярэдка завітваюць розныя абласныя чыноўнікі. Яно і зразумела: Віцебск побач, паўгадзіны на дзяржаўным аўта — і ты ў Бешанковічах. Яшчэ паўгадзіны — і ўжо дома. Аклад адпрацаваў, пытанні ўзятыя на кантроль... Гэта вам не ў Паставы ці Верхнядзвінск з'ездзіць, куды дарога займае паўдня.**

Што ж тычыцца пытанняў, якія тыя чыноўнікі вырашаюць, тутка ўзнікае загвоздка. Бо, калі шчыра казаць, анічога яны не вырашаюць. Бо ў дзяржавы, якой 27-ы год кіруе адна вядомая асоба, на вырашэнне сур'ёзных пытанняў грошай, як правіла, бракуе. Бо іх хапае толькі на аплату працы падобных чыноўнікаў-візіцёраў, якіх у нашай дзяржаве хоць гаць гаці.

Вось і ў верасні ў Бешанковічы завітала высокая персона — намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Белавус. (Дарэчы, намеснікаў у старшыні аблвыканкама хапае па завязку. Колькі іх? Ажно пяць! Падумайце ў вольны час, якую (двухзначную ці трохзначную) лічбу складае колькасць простых чыноўнікаў аблвыканкама.)

Дык вось, прыехаў гэты чыноўнік дзеля прыёма грамадзян Бешанковіцкага раёна.

Як піша «Зара», «два жыхары нашага гарпасёлка выкарысталі магчымасць асабіста пагутарыць з Уладзімірам Мікалаевічам, папрасіць парады і заручыцца падтрымкай у вырашэнні хвалюючых іх пытанняў. Уладзімір Якаўлевіч Пракоф'еў звярнуўся ад імя жыхароў вуліцы Энгельса з просьбай аб рамонце дарогі. Участак працы тут трэба будзе немалы, адразу ўсё не адужаць, але зварот пачуты і праблему будуць вырашаць.»

З аналагічным пытаннем прыйшоў і жыхар вуліцы Някрасава Уладзімір Кухто. Будучы дэпутатам райсавета дэпутатаў па Чарняхоўскай выбарчай акрузе, ён агучыў просьбу сваіх выбаршчыкаў: калі завершацца работы па рамонту вуліцы Чарняхоўскага і прылеглых тэрыторый, якія доўжацца ўжо не першы год...

«Зара» піша, што размова атрымалася душэўная. Яно то так, чыноўнік чыноўніку вока не выдзеўбе...

Абласны чыноўнік паабяцаў раённаму чыноўніку, што гэта пытанне застанецца на кантролі, будуць разгледжаны ўсе варыянты яго рашэння.

А яшчэ намеснік старшыні аблвыканкама правёў па Бешанковічах экскурсію:

1) наведаў будаўніцтва 40-кватэрнага жылога дома на вул. Моладзевай (у верасні плануецца ўжо ўвод у эксплуатацыю),

2) азнаёміўся з ходам рамонтных работ у дзіцячай школе мастацтваў, паабяцаўшы разгледзець пытанне аб далейшым фінансаванні. (Цікава, што ён не будзе выдаткоўваць свае грошы на рамонт нашай школы.)

«І гэта ўсё?» — спытаеце вы. «І гэта ўсё», — адкажу я.

І што, варта было ехаць у Бешанковічы, каб змарнаваць свой рабочы дзень, «узяўшы на кантроль» тыя пытанні і наабяцаць штосьці?

Няўжо бешанковіцкія чыноўнікі не ведаюць, якія вуліцы ў райцэнтры трэба рамантаваць? Ды плюнь у любы бок, і патрапіш на пабітую вуліцу. Дык складзіце спіс гэтых вуліц і дашліце той спіс у аблвыканкам. Заадно напішыце, колькі разоў і з якой перыядычнасцю «рамантуюцца» нашыя цэнтральныя вуліцы.

І, галоўнае, напішыце, чаму асфальтавае пакрыццё на іх служыць год ці два, а потым патрабуе новага рамонту.

І самае галоўнае. Няхай бы тыя чыноўнікі менш ездзілі да нас, а замест кожнай паездкі пераводзілі на бягучы рахунак па рамонце нашых дарог, скажам, хаця б па 300 рублёў.

Бо, калі палічыць усе выдаткі на ўтрыманне гэтага чыноўніка — бензін, аўтамабіль, аклад — менш за рабочы дзень не атрымаецца.

**Г.Станкевіч**

ПАДТРЫМАЦЬ!

# МОВА ПАТРАБУЕ ПАДТРЫМКІ

**Абласныя ўпраўленні Белстата апублікавалі рэгіянальную статыстыку аб колькасці жыхароў краіны, якія назвалі тую ці іншую мову роднай згодна перапісу 2019 года. У Бешанковіцкім раёне беларуская мова ўсё больш губляе сваю дамінантнасць.**

У нашым раёне беларускую мову назвалі мовай, на якой звычайна размаўляюць дома, 4 571 чалавек, або 31,2%. На рускай мове дома размаўляе 9 987 жыхароў нашага раёна.

Калі параўнаць сітуацыю з Вушацкім раёнам, то там яна нашмат лепшая: беларускую мову назвалі мовай, на якой звычайна размаўляюць дома, 7 404 чалавекі, або 58,2%.

У вось у Аршанскім раёне стан мовы наогул катастрафічны: беларускую мо-ву назвалі мовай, на якой звычайна размаўляюць дома, 5 773 чалавекі, або 3,9%.

У такім стане мова апынулася праз 25 гадоў пасля ганебнага лукашэнкаўскага рэферэндуму, пасля якога яна пачала паслядоўна выціскацца з ужытку.

Хаця беларусы ўсведамляюць, што менавіта ГЭТАЯ мова для іх родная.

У Бешанковіцкім раёне РОДНАЙ беларускую мову лічаць 57,7% насельніцтва, або 8 448 чалавек.

У Вушацкім раёне роднай беларускую мову лічаць 74,9% насельніцтва, а ў Аршанскім — 37,9%.

У Віцебскай вобласці толькі кожны 15-ы (6,6%) жыхар горада мае зносіны дома на беларускай мове, у сельскай мясцовасці - кожны трэці (32,7%).

Менш за ўсё беларускую мову на кухні можна пачуць у дамах жыхароў Віцебска: у кожнага 50-га віцябляніна.

Беларускую мову роднай назвалі 5 млн 95 тысяч чалавек - 54,1% ад усяго насельніцтва краіны. Рускую мову роднай назвала 42,3% насельніцтва.

**Г.Станкевіч**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# 30 Ц/ГА — ГЭТА ШМАТ ЦІ МАЛА?

**Па дадзеных на 30-га жніўня ў Бешанковіцкім раёне была намалочана 36 821 т (зжата 86,7% плошчаў), сярэдняя ўраджайнасць збожжавых на гэтую дату складае 32,2 ц/га.**

Прыкладна такая ж ураджайнасць збожжавых культур і ў цэлым па Віцебскай вобласці. Як напісала ў пачатку верасня "СБ","средняя урожайность сейчас — 31,4. Прошлый год закончили с результатом 26,7. Это хороший намолот, — сказал заместитель председателя Витебского облисполкома. — Достигнут он в том числе за счет соблюдения технологии возделывания земли, подбора высокоурожайных культур, внесения минеральных удобрений.

Прабачце, але як вучоны аграном, які на сваім вяку скончыў з чырвоным дыпломам Горацкую сельгасакадэмію і 12 гадоў узначальваў сельскую гаспадарку Бешанковіцкага раёна, заўважу, што сёння ўроджайнасць каля 30 ц/га лічыцца невысокай. І, каб яе атрымаць, не патрэбна асаблівая замарочваць галаву тэхналогіямі, высокаўрадлівымі культурамі і мінеральнымі ўгнаеннямі.

У далёкім 1969-м годзе ў калгасе "Запаветы Ільіча" Сенненскага раёна, дзе мой бацька працаваў галоўным інжынерам, атрымалі сапраўды высокі ўраджай. У тым годзе тут пасеялі новы гатунак яравога ячменю "Маскоўскі 121". Дык вось, гэты гатунак на той час паказаў на калгасных нівах ураджайнасць звыш 27 ц/га!

Праз паўвека высокія чыноўнікі, каб апраўдаць сваю бяздзейнасць і неабходнасць існавання калгасна-прыгонніцкай сістэмы, выдаюць за поспех прыкладна тую ж ураджайнасць.

Хаця ёсць і іншыя прыклады. Скажам, летась у Бешанковіцкім раёне збанкрутавала "Плісы-Агра", гаспадарка, якая ляжыць наводшыбе ад бойкіх дарог. За ўсю ейную гісторыю, мусіць, ураджайнасць зерневых культур тут рэдка перавальвала за 20 ц/га.

І вось сёлета на ейных нівах была створана сялянска-фермерская гаспадарка "Тэрра Ностра". Не забудзьцеся набраць паветра ў грудзі, бо калі вы даведаецеся пра ўраджайнасць, якую атрымала гэтая гаспадарка сёлета, вы ахнеце — 72 ц/га!

Дык хто перашкаджае ў нашым раёне ды і ў вобласці атрымоўваць падобныя ўраджаі?

Адказ надзвычай просты: прыгонніцкая калгасная сістэма з засіллем чыноўнікаў на ўсіх узроўнях.

**Г.Станкевіч**

ЗДАРЭННІ

# ВЫБУХ У КВАТЭРЫ

**10-га верасня ў адным з дамоў Бешанковічаў адбыўся выбух газапаветранай сумесі.**

Пры выбуху ў кватэры выбіла акно. Па папярэдніх дадзеных следства 56-гадовы ўладальнік кватэры ўключыў газ і закурыў ў санвузле, пасля чаго і адбылася ўспышка газапаветранай сумесі. Мужчына шпіталізаваны. Дома ён быў адзін, іншых пацярпелых няма.

Следча-аператыўная група агледзела месца здарэння, прызначыла судова-мэдычную экспэртызу, апытала суседзяў і сужыцельку пацярпелага.

Па дадзеным факце следчыя праводзяць праверку. Устанаўліваюцца ўсе абставіны здарэння, паведамляе прэс-служба СК.

**А.Тутэйшы**

КАДРАВАЯ ПАЛІТЫКА

# ЗНОЎКУ ЗВОЛЬНІЛІ

**Былы старшыня Бешанковіцкага РВК Андрэй Булаўкін, якому напрыканцы лютага прапанавалі ўзначаліць аршанскі мясакансервовы камбінат, у жніўні быў звольнены з пасады.**

Пра тое, што А.Булаўкін больш не працуе генеральным дырэктарам, можна даведацца з сайта аршанскага мясакамбіната. З яго бачна, што цяпер абавязкі галоўнага дырэктара выконвае Максім Бакураў. Як мне патлумачылі ў аддзеле кадраў прадпрыемства, Андрэй Булаўкін сапраўды звольнены «па пагадненню бакоў».

**М. Васільеў**

РЭПРЭСІІ

# ЯК ЗБІВАЮЦЬ ЗАТРЫМАНЫХ

**Распавядае студэнт менскай ВНУ, 21 год: “12 верасьня каля паловы шостай я стаяў каля мэтро «Плошча Перамогі» і глядзеў на тэлефоне карту, бо зьбіраўся ісьці да сяброў. У гэты час побач было шмат журналістаў. Як я потым даведаўся, у горадзе якраз скончыўся марш. І ў момант, калі я падняў галаву ад тэлефона, да мяне падбеглі людзі ў аліўкавай форме і балаклавах і ўдарылі ў нос. У бус без нумароў мяне пацягнулі з пабітым носам, ішла кроў.”**

Мяне, як толькі паклалі на падлогу ў бусе, пачалі біць нагамі. Некалькі ўдараў было кулакамі ў твар. Адразу сказалі: «Усё, мы пра цябе ўсё ведаем, ты каардынатар з Польшчы». Гаварылі нейкімі агульнымі фразамі. Было відаць, што спрабуюць запалохаць. Нічога канкрэтнага не прад’яўлялі, казалі, што яны нібыта даўно высочвалі мяне. Настойвалі, каб я ў чымсьці прызнаўся. Спрабавалі запалохаць мяне псыхалягічна, каб я прызнаў, што я нейкі каардынатар. Пры гэтым білі ў нагу, у твар, па галаве, па сьпіне. Хоць я ўжо ня памятаю, як мяне білі па сьпіне, толькі потым знайшоў сінякі ў сябе. Не адчуваў гэтага ад болю і шоку, напэўна.

У аўтобусе мяне паклалі на падлогу паміж сядзеньнямі. З затрыманых я быў там толькі адзін, а сілавікоў пяць. Тэлефон, які заставаўся ў мяне ў правай руцэ, я выключыў і закінуў пад сядзеньне. Яны потым знайшлі яго і сказалі: «Глядзі, які хітры, думаў, ня знойдзем?», і зноў білі. Сказалі, што я «добра падрыхтаваны», раз выключыў тэлефон. Потым пачалі «выбіваць» пароль. Патрабавалі пагрозамі і запалохваньнем. Я не называў пароль ад тэлефона, на што яны адказвалі, што я нібыта «наркаман пад дозай». Білі ўвесь час, я крычаў ад болю, стараліся зламаць нагу. Спрабавалі разблякаваць тэлефон маім адбіткам пальца. Тыцкалі мой палец у мэталічную штучку на чахле тэлефона, прызначаную для магніта ў аўтамабілі. Калі яны зразумелі, што гэта ня «сканэр пальцаў», то пачалі тыцкаць мае пальцы ў камэру.

Потым у нейкі момант «галоўны», які сеў сьпераду буса, дастаў дубінку і сказаў: «Ведаеш, куды табе яе зараз засунем, калі ты ня скажаш пароль? І ў горла, і згвалцім. Ну давайце, пацаны, пачынаем». У гэты час іншыя сілавікі пачалі сьцягваць зь мяне шорты і трусы. Я адбіваўся, як мог. Спадзяваўся, што яны перастануць. Так і адбылося. Усё абышлося запалохваньнямі. Было страшна і непрыемна, але я спрабаваў трымаць сябе ў руках, наколькі гэта магчыма ў такой сытуацыі.

Палохалі крымінальнай справай і тэрмінам на пяць гадоў. Пыталіся: «Ну што, кепска табе жылося да гэтага?» Я ім спрабаваў давесьці, што я ня ўдзельнічаў у мітынгах, не выкрыкваў лёзунгаў, што пацьвярджае месца майго затрыманьня. Аднак, чым больш аргумэнтавана я спрабаваў растлумачыць ім сваю невінаватасьць, тым больш яны злаваліся і білі мяне.

У нейкі момант надзелі на рукі сьцяжку і зацягвалі ўсё больш і больш. Ад пастаяннага біцьця мне стала кепска. У бусе я ўжо быў страціў прытомнасьць ці быў блізкі да гэтага. Мяне адразу палілі вадой. Я пачуў: «Хлопцы, хлопцы, ня біце пакуль, пачакайце». Мабыць, у іх усё ж нейкія межы ёсьць. Хоць ня ўпэўнены, ці можна назваць гэта межамі з маім дыягназам і іншымі гісторыямі выкраданьняў. Ніяк, акрамя як выкраданьні, гэта не назавеш, гэта грубае парушэньне правоў чалавека.

У нейкі момант аўтобусік спыніўся. Я пачуў: «Пацаны, вытрыце яго». Увесь гэты час у мяне кроў з носу лілася. Яны выцiралі мяне маёй жа кофтай, палівалі вадой. Потым пасадзілі мяне на край парога выхаду з буса. У гэты час да мяне падышоў супрацоўнік з камэрай і пачаў задаваць пытаньні: «Што ты каардынаваў? Давай прызнавайся!» На што я сказаў, што я нічога не каардынаваў, я проста ішоў.

Потым вярнуліся ў машыну і зноў пачалі езьдзіць па горадзе. Кіроўца мне сказаў: «Ты ж разумееш, што мы можам так езьдзіць колькі заўгодна?» Зьбіваньне, запалохваньне, пагрозы пры гэтым працягваліся. Напрыклад, казалі: «Такія пачвары, як вы, будзе рэзаць потым нашых дзяцей». Яны скардзіліся, што на іх ідзе вялікі ціск.

Быў момант, калі я спрабаваў зь імі пагаварыць па-чалавечы, на што яны адрэагавалі ўсе адназначна: «Ты што, с..ка, нас запісваеш?» Пачалі біць, распранаць і шукаць нейкі мікрафон, на які я іх нібыта запісваў. Казалі, што калі я ўсё ж іх запісваў, то яны мяне знойдуць. Яны вельмі баяцца, каб іх ніхто ніяк не запісаў.

Пыталіся, ці ёсьць у мяне дзяўчына. Калі я сказаў, што няма, то пачалі называць «заднепрывадным». Зноў пачалі пагражаць згвалтаваньнем. Сказалі: «А давайце яго безь дзяцей пакінем!» Пачалі біць... Добра, што білі не туды.

Мяне даставілі ў РУУС Першамайскага раёну. Калі я ішоў у будынак, то кульгаў, таму што сілавікі адбілі мне нагу. Яны крычалі, каб я не кульгаў. Сілавікі сказалі мне, што гэта я сам упаў, калі яны затрымлівалі мяне. У РУУС у іх спыталі, ці супраціўляўся я, на што яны сказалі, што сам зваліўся спачатку.

Супрацоўнікі міліцыі ў аддзяленьні таксама пагражалі мне. Адзін зь іх сказаў: «Што, пацаны, пароль ад тэлефона не гаворыць? А дубінка не дапамагае? Нічога, паяльнік у зад дапаможа». У самім аддзяленьні сілавікі асьцярожнічаюць у сваіх дзеяньнях. Магчыма, таму, што камэры там вісяць. Пагрозы шапталі на вуха. Напрыклад: «Калі ня скажаш пароль, то ты адсюль ня выйдзеш». Часта на ногі мне там наступалі. Але, калі хапалі за валасы і білі ў патыліцу, то спынялі адзін аднаго: «Цішэй, тут ня бі».

Калі мяне павёў адзін з супрацоўнікаў у прыбіральню, то спытаў: «Цябе калі-небудзь мачалі ва ўнітаз галавой? А хочаш?» Мне так рукі сьціснулі сьцяжкай тады, што я ня мог нават зрабіць іх «лодачкай», каб памыцца. Я ня мог рукі сагнуць, зь іх пастаянна выцякала вада. Мяне выцiралі капюшонам маёй жа кофты. Спробы запалохваньня былі пастаянна. Я часта прасіў лекара, часта казаў, што мне дрэнна. На гэта яны адказвалі: «Скажы пароль – будзе лекар». Гулялі ў «добрага і дрэннага міліцыянта», прычым гэта мог быць адзін і той жа чалавек: спачатку біць, а потым запэўніваць, што ўсё добра.

У той час, як мяне сілавікі білі, запалохвалі, пагражалі, на ногі наступалі, за валасы трымалі, міліцыянты зь Першамайскага РУУС нават не глядзелі ў мой бок і не падыходзілі. Яны проста бязьдзейнічалі.

У РУУС сілавікі і міліцыянты спрабавалі даведацца мой пароль ад тэлефона. Былі фразы: «Вось у нас вельмі добрыя хакеры, яны твой тэлефон узламаюць, так што, калі ты ня скажаш цяпер па-добраму, то будзе па-дрэннаму».

Сілавікі абмяркоўвалі пры мне, што можна мне «прыпісаць» артыкул 205 Крымінальнага кодэксу («Крадзеж»), што я нібыта скраў у аднаго зь іх свой жа электронны гадзіньнік і тэлефон, раз я пароль не называю, то магчыма, гэта ня мой тэлефон. Магчыма, гэта быў жарт, але ўспрымаў гэта я тады не як жарт. Казалі, што я абколаты, наркаман нейкі, у стане алькагольнага ап’яненьня.

Калі “зялёныя чалавечкі” пакідалі РУУС, то сказалі міліцыянтам не выклікаць мне хуткую дапамогу, бо я нібыта сымулянт. У прытомнасьць мяне прыводзілі антысэптыкам: пырскалі на рукі, на ватку і на скроні. У бусе і ў міліцыі яшчэ ціснулі на скiвіцу, каб я апрытомнеў. У РУУС прынесьлі мне шалік, прамочаны чымсьці, казалі: «Дыхай, дыхай». Але я ўсё слабей і слабей успрымаў інфармацыю звонку. «Хуткую» ўсё ж такі выклікалі пасьля таго, як убачылі, што я ўжо ледзь сяджу на крэсьле, зваляваюся.

Папрасілі, каб «хуткая» ехала хутчэй і зь мігалкамі, а мяне ў гэты час трымалі, каб я ня ўпаў. Калі выклікалі «хуткую», то мяне паклалі на падлогу і глядзелі, каб са мной нармальна было ўсё.

Калі прыехала «хуткая», то міліцыянтаў цікавіла, ці не сымулюю я. Лекары сказалі, што трэба забіраць мяне. Міліцыянты ў гэты час спрабавалі датэлефанавацца свайму начальніку, каб спытаць у яго, ці забіраць мой тэлефон. Потым супрацоўнікі міліцыі сказалі, што калі цяпер не скажу пароль, то потым мне давядзецца вяртацца ў гэтае аддзяленьне. Аднак адказаць у мяне не было сіл, я проста ляжаў паўпрытомны. У выніку мне кінулі мой парваны заплечнік, увесь у крыві, і тэлефон.

Цяпер я ў лякарні. Мне паставілі дыягназ: чэрапна-мазгавая траўма, кровазьліцьцё ў мозг сярэдняй ступені цяжкасьці, пералом носа, множныя гематомы і пашкоджаньні на целе”.

**Spring96.org**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ШТО ВЫВЕЛА СОТНІ ТЫСЯЧ БЕЛАРУСАЎ НА ПЛОШЧЫ?

**Паводле афіцыйнай версіі, неаднаразова агучанай адзіным палітыкам (АП), — замежныя лялькаводы. Бо ўнутраных прычын для гэтага ў дзяржаве для народа няма і быць не можа. Прынамсі, асабіста ён іх не заўважыў.**




Але калі прызнаць, што такое тлумачэнне ўтрымлівае хоць бы драбніцу ісціны, то ўсіх дзяржаўных прапагандыстаў неабходна тэрмінова звальняць за прафнепрыдатнасць.

Звернемся да бюлетэня «Рэспубліка Беларусь у люстэрку сацыялогіі» за 2018 год, падрыхтаванага спецыялістамі Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ) пры АП. Салідны дакумент салідных людзей. У мяне няма падстаў яму не давяраць.

Цытую: «На сучасным этапе ў кожнага жыхара краіны ёсць магчымасць аператыўна атрымліваць звесткі пра сітуацыю ў краіне і за мяжой у зручнай для яго форме: на 1 лістапада 2018 года ў краіне дзейнічаюць 9 інфармацыйных агенцтваў, выдаюцца 746 газет і 860 часопісаў, транслююцца дзясяткі тэлеканалаў, ажыццяўляюць вяшчанне 176 радыёпраграм. Шырока прадстаўлены і вэб-сайты, якія публікуюць актуальныя навіны і забаўляльны кантэнт».

Колькасць газет уражвае. Але не будзем цешыць сябе. Не ўсё золата, што блішчыць, і не ўсё карыстаецца попытам, што надрукавана на газетнай паперы. У першай дзясятцы няма ні аднаго незалежнага выдання. А замыкае ТОП-10 газета «Звязда», чыя аўдыторыя (2%) не перавышае хібнасці вымярэння. Што ж тады казаць пра ўплывовасць выданняў, якія ў першую дзясятку не трапілі.

Ад друкаваных выданняў пяройдзем да тэлебачання, якое згодна з прызнаннем сацыёлагаў ІАЦ, «па-ранейшаму застаецца для беларускіх грамадзян галоўнай крыніцай інфармацыі пра падзеі ў рэспубліцы і свеце».

Аднак паводле папулярнасці і ўзроўню даверу, як і ў выпадку з газетамі, тэлеканалы «Белсат» і «Еўраньюс» вядучым дзяржаўным каналам — не супернікі.

Інтэрнэт, безумоўна, апісаную вышэй карціну «змазвае». Праз два-тры гады ён стане для большасці беларусаў галоўнай крыніцай інфармацыі пра падзеі ў краіне і свеце. Стане, але пакуль яшчэ не стаў.

Дык чаму ж лялькаводы з-за мяжы аказаліся настолькі эфектыўнымі пры рэалізацыі сваіх злачынных планаў? А дзе была пры гэтым ідэалагічная вертыкаль?

**Выбары і сяржанты**

Праўда, як любіць паўтараць палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, — гэта версія, якая найбольш задавальняе. У вершнікаў — свая праўда, у пяхоты — свая.

Так, згодна з версіяй кіраўнікоў палатаў беларускага парламента Наталлі Качанавай і Уладзіміра Андрэйчанкі, якой яны падзяліліся са старшынямі парламентаў дзяржаў — чальцоў Еўразаюза, выбары 9 жніўня прайшлі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі РБ.

Наконт колькасці грамадзян, якія рэальна падтрымалі дзеючы курс, у грамадстве ідуць гарачыя спрэчкі. Але, павінен прызнацца, яны мяне мала цікавяць. І тут спатрэбіцца тлумачэнне.

Галасы лічаць на выбарах. Аднак дзе тыя шчаслівчыкі, якія здолелі прыняць удзел у беларускіх выбарах пасля 1996 года? Выбары — гэта ў першую чаргу сумленны падлік галоў. Безумоўна, да такога падліку яны не зводзяцца, але калі сумленны падлік не забяспечаны, то пра якія выбары гаворка?

Каб выпадкова дарэмна не пакрыўдзіць людзей годных, з якіх і камплектуюцца ў Беларусі ўчастковыя выбарчыя камісіі (УВК), я — з дапамогай пісьменніка Габрыэля Маркеса — перанясуся ў Калумбію: «Выбары прайшлі спакойна. У нядзелю, у восем гадзін раніцы, на плошчы была ўстаноўлена драўляная скрыня пад аховай шасці салдат. Галасаванне было цалкам свабодным, у чым Аўрэліана мог пераканацца сам — амаль увесь дзень ён прастаяў побач з цесцем і сачыў, каб ніхто не прагаласаваў больш за адзін раз. У чатыры гадзіны дня барабанны дроб абвясціў пра канец галасавання, і дон Апалінар Маскотэ апячатаў скрыню ярлыком са сваім подпісам. Увечары, седзячы за партыяй у даміно з Аўрэліана, ён загадаў сяржанту сарваць ярлык і падлічыць галасы. Ружовых паперак было амаль столькі ж, колькі блакітных, але сяржант пакінуў толькі дзесяць ружовых і папоўніў нястачу блакітнымі. Потым скрыню апячаталі новым ярлыком, а на наступны дзень, ледзь развіднела, адвезлі ў галоўны горад правінцыі» («Сто гадоў адзіноты»).

Беларусь, наколькі мне вядома, знаходзіцца не ў Лацінскай Амерыцы, а ў геаграфічным цэнтры Еўропы. Ці азначае гэта, што мясцовыя сяржанты пазбаўленыя магчымасці ўплываць на падлік галасоў?

Каб знайсці правільны адказ, звернемся да статыстыкі фарміравання УВК. Паводле інфармацыі Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, да 24 чэрвеня было сфарміравана 5 723 участковых выбаркамаў, у склад якіх увайшлі 63 347 чалавек. 3 539 прадстаўнікоў апазіцыйных партый у камісіі ўключылі ўсяго шэсць.

Далей працягваць?

**Паміж Богам і Д'яблам**

Праўда, як любіць паўтараць палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, — гэта версія, якая найбольш задавальняе. Прыведзеная вышэй статыстыка фарміравання УВК многіх у Беларусі задавальняе, і найперш задавальняе яна службоўцаў, што чэрпаюць свае даходы з бюджэтнай кармушкі.

Пазнаць гэтых людзей нескладана. Гэта яны сёння гучней за ўсіх крычаць наконт неабходнасці захавання законаў і палохаюць абывацеляў каляровымі рэвалюцыямі і танкамі NATO, што нібыта вось-вось гатовыя рушыць на Гродна.

Але не перавяліся яшчэ людзі, якія спрабуюць вярнуць праўдзе яе першапачатковую ўніверсальную прыроду. Прапаную прыслухацца да словаў архіепіскапа Гродзенскага Арцемія (Кішчанкі): «…нельга гуляцца з Праўдай, перакручваць яе на карысць палітычнай мэтазгоднасці. Таму што Праўда — гэта той каштоўнасны феномен і сэнсавая катэгорыя, за якой стаіць — БОГ! І калі Праўда бярэцца ў двукоссі і лёгкім рухам рукі ператвараецца ў хлусню, то зняважаецца Той, Хто — Бацька Праўды! І на арэну выходзіць іншы бацька. Бацька хлусні. Якога, як мы ведаем з Божага слова, завуць — Д'ябал. І яшчэ мы пра яго ведаем, што "Ён быў чалавеказабойцам ад пачатку" (Евангелле ад Іаана 8, 44)».

Рэакцыя з боку АП на такі погляд на праўду не прымусіла сябе доўга чакаць: «Мяне здзіўляе пазіцыя нашых канфесій. Дарагія мае святары, пасталейце ды займіцеся сваёй справай. У храмы людзі павінны прыходзіць маліцца! Цэрквы, касцёлы — не для палітыкі. Туды людзі душой павінны прыходзіць, як гэта было заўсёды».

АП пераканаsuccessfully, што святары пайшлі за адшчапенцамі. Галоўнаму спецыялісту па падзеле беларусаў на чыстых і нячыстых, зразумела, лепш бачна. Для тых жа, хто яшчэ не ведае, спатрэбіцца тлумачэнне: адшчапенцы, разам з пацукамі і уркамі — гэта новая генерацыя грамадзян рэспублікі-партызанкі, што на ўсю моц праявіла сябе падчас электаральнай кампаніі.

У іх шэрагі бліжэйшым часам залічаць і святароў, якія адмовіліся «пасталець». Царква ў Беларусі адасобленая ад дзяржавы, але яна не аддзеленая ад жыцця. У гэтым праблема…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ІНАЎГУРАЦЫЯ

# ПАТАЕМНАЯ ІНАЎГУРАЦЫЯ І «ПРЭЗІДЭНТ — ЦІХАР»

**Зранку 23 верасня сталіца Беларусі аказалася спустошанай. Спачатку людзі паведамілі, што да Палацу Незалежнасці — рэзідэнцыі Лукашэнкі, прывезлі роту ганаровай варты. Потым цэнтральныя транспартныя артэрыі Мінска перакрылі ўвогуле.**

Відавочна, гэтак рыхтаваліся да «патаемнай інаўгурацыі» Лукашэнкі. Па законе інаўгурацыя павінна прайсці не пазней чым праз два месяцы пасля абвяшчэння вынікаў выбараў. Дзейныя паўнамоцтвы ў Лукашэнкі сканчаюцца 5 лістапада.

Аднак насамрэч гэтая працэдура — інаўгурацыя, — такая ж бессэнсоўная, як і паказальная. Бессэнсоўная — таму што не мае ніякай юрыдычнай моцы, бо парушаная працэдура яе правядзення.

І парушыў яе сам Лукашэнка, які любіць змяняць усё і ўся, дэманструючы сваю ўладу. Яшчэ даўным-даўно ён скасаваў Вышэйшы Гаспадарчы суд, з-за чаго, па вялікім рахунку, трэба мяняць Канстытуцыю, бо згадка пра неіснуючую структуру там засталася. Засталася яна і ў працэдуры інаўгурацыі.

Згодна заканадаўству, «прэзідэнт уступае на пасаду пасля прынясення прысягі… Прысяга прыносіцца ва ўрачыстай абстаноўцы ў прысутнасці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі, суддзяў Канстытуцыйнага, Вярхоўнага і Вышэйшага Гаспадарчага судоў не пазней двух месяцаў з дня выбрання прэзідэнта. З моманту прынясення прысягі нававыбраным прэзідэнтам паўнамоцтвы папярэдняга прэзідэнта спыняюцца».

Такім чынам, прадстаўнікоў скасаванага Вышэйшага Гаспадарчага суду не будзе, а значыць, і прысяга, і працэдура інаўгурацыі — не дзейсныя.

Цікава яшчэ і тое, што «З моманту прынясення прысягі нававыбраным прэзідэнтам паўнамоцтвы папярэдняга прэзідэнта спыняюцца». Калі Лукашэнка прачытаў яе тэкст — усё, ён больш не прэзідэнт. Ён склаў свае мінулыя паўнамоцтвы. Цяпер для цывілізаванага свету ён — звычайны «грамадзянін Рэспублікі Беларусь». Ён мог бы пабыць прэзідэнтам яшчэ больш за месяц, але… Сам вырашыў. Што зробіш? Нічога.

І, канешне ж, для прынясення прысягі павінна быць «урачыстая абстаноўка». Урачыстую абстаноўку гэтым разам забяспечвалі тысячы сілавікоў, што атачылі Палац Незалежнасці, і прыгонныя людзі, якіх звезлі на мерапрыемства, нават не тлумачачы, што за яно і навошта яны. Пра інаўгурацыю да апошняга маўчалі афіцыйныя СМІ, тэлеграм-каналы і нават прэс-сакратарка самога Лукашэнкі. А дэпутаты ў адзін голас заяўлялі: яны не атрымлівалі запрашэння на інаўгурацыю.

…Чалавек, які «быў абраны 80% выбаршчыкаў», ехаў на інаўгурацыю па спустошаных вуліцах. Падаецца ж — урачыстасць! Але ніводзін чалавек «з народа» не выйшаў (не мог выйсці, напэўна, нават калі б меў такое жаданне) на цэнтральныя вуліцы сталіцы, каб павітаць перамогу таго, за каго ён прагаласаваў. Чаму? Бо, можа быць, за Лукашэнку сапраўды ніхто не галасаваў?

Інтэрнэт адразу ж пачаў кпіць: «Прэзідэнт — ціхар»; «Патаемная інаўгурацыя — выбітная прыкмета 80%-най падтрымкі»; «Вядомы выраз "сам сябе не пахваліш — ніхто і не пахваліць" можна перарабляць на "сам сябе не інаўгуруеш — ніхто не інаўгуруе"»; «І трагічны, і камічны эпізод беларускай гісторыі: чалавек, які сцвярджае, што за яго прагаласавалі 80%, гэта значыць абсалютная большасць, будзе ўступаць на пасаду, хаваючыся ад гэтай самай "сваёй" большасці».

Карацей, гэта была самая клоўнская інаўгурацыя ў гісторыі Беларусі. Відавочна, што насамрэч, «інаўгуруй — не інаўгуруй, усё роўна атрымаеш…» Дакладней, не атрымаеш той самай «усенароднай падтрымкі», якая і надае легітымнасці кіраўніку дзяржавы.

Такім чынам, можна лічыць, што Лукашэнка склаў з сябе паўнамоцтвы прэзідэнта Беларусі. Пакуль што ён яшчэ кіруе — выключна чыноўнікамі і сілавікамі. Уся астатняя краіна яго абраным прэзідэнтам не лічыць. І, з такой інаўгурацыяй — лічыць і не будзе.

Я ж кажу — бессэнсоўнае мерапрыемства.

**Сяргей Пульша**
**"Новы Час"**

МІРНЫ ПРАТЭСТ

# ЦІ САПРАЎДЫ БЕЛАРУСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ ДЫСКРЭДЫТАВАЛА СТРАТЭГІЮ МІРНАГА ПРАТЭСТУ?

**Што тычыцца выніку супрацьстаяньня ў Беларусі, то на яго моцны ўплыў аказала хутчэй умяшаньне Расеі, чым пытаньне суадносін мірных і немірных мэтадаў.**

У расейскай «Новой газете» зьявіўся артыкул палітоляга, дасьледчыка University College of London Уладзіміра Пастухова «Рэвалюцыя адыходзіць зь Беларускага вакзала. Стратэгія мірнага пратэсту сур'ёзна дыскрэдытаваная ў Менску».

**Мірныя і немірныя рэвалюцыі**

Галоўны сэнс артыкула ў тым, што беларускі досьвед паказвае, што эпоха мірных («каляровых») рэвалюцый нібыта заканчваецца, мірным шляхам перамагчы нэататалітарны рэжым (найперш на постсавецкай прасторы) немагчыма.

Тут з самага пачатку хацелася б запярэчыць, што гэтая эпоха закончылася раней. Немірных рэвалюцый у XXI стагодзьдзі было немала. У Беларусі дасюль хаваецца былы прэзыдэнт Кіргізстану Курманбек Бакіеў, якога кіргіскае правасудзьдзе імкнецца прыцягнуць да адказнасьці за расстрэл пратэстоўцаў падчас рэвалюцыі 2010 году. Потым была крывавая «арабская вясна», у выніку якой рэвалюцыі ў Лібіі, Сырыі, Эгіпце выліліся ў грамадзянскія вайны. І кульмінацыяй немірнай рэвалюцыі быў украінскі Майдан 2014 году.

Таксама няма нічога эксклюзіўна беларускага і ў тым, што за доўгі час панаваньня рэжыму Лукашэнкі тут сфармавалася асобная кіроўная кляса, якая «зьяўляецца калектыўным бэнэфіцыярам» мадэлі дзяржаўнага капіталізму ў Беларусі. Любая палітычная сыстэма ў любой краіне, асабліва калі яна доўга існуе, фармуе сацыяльны слой, на які яна абапіраецца і які становіцца яе бэнэфіцыярам.

**Велізарная роля дзяржавы**

Асаблівасьці беларускай сытуацыі, якія тлумачаць моц існага рэжыму і часткова ягоную жорсткасьць, палягаюць у іншым. Найперш тут замацавана велізарная роля дзяржавы ў эканоміцы, сацыяльнай сфэры, грамадзтве ўвогуле. У значнай ступені гэта савецкая спадчына. Такога ўсёахопнага дзяржаўнага кантролю няма ў іншых аўтарытарных рэжымах XXI стагодзьдзя. Беларусь тут можна параўнаць хіба што з Кітаем.

Дык вось, гэты дзяржаўны монстар, Левіяфан, стварае сытуацыю, калі кантролем за палітычнай лаяльнасьцю грамадзян і палітычнымі рэпрэсіямі займаюцца ня толькі праваахоўныя органы і спэцслужбы, але і ўсе дзяржаўныя ўстановы.

На гэта працуе ўся сыстэма адукацыі. Пра ролю настаўнікаў у фальсыфікацыі выбараў не пісаў толькі лянівы. Загадчыцы дзіцячых садкоў пагражаюць забраць дзяцей у бацькоў, якія ходзяць на мітынгі. На дзяржпрадпрыемствах функцыянуе кантрактная сыстэма, якая дазваляе хутка пазбаўляцца ад нелаяльных бунтароў. Дзяржаўныя правайдэры блякуюць інтэрнэт. Дзяржаўныя ЖЭСы адключаюць сьвятло ў непажаданых офісах (краме Symbal.by Паўла Белавуса), зафарбоўваюць непажаданыя надпісы на сьценах. І так далей.

Такі татальны ахоп быў бы немагчымы, калі б у краіне існаваў вялікі недзяржаўны сэктар ня толькі ў эканоміцы, але і ў сацыяльнай сфэры. Дарэчы, гэта адна з галоўных прычын, чаму Лукашэнка так упарта трымаецца за дзяржаўны сэктар і не дапускае прыватызацыі.

**У Беларусі апазыцыя пазасыстэмная**

Другі момант. У пераможных «каляровых рэвалюцыях» у Югаславіі, Грузіі, Украіне (у «недарэвалюцыі» ў Вэнэсуэле) апазыцыя мела вялікія плацдармы ў палітычнай сыстэме. Яна прысутнічала ў парлямэнце, органах мясцовага самакіраваньня. Цэлыя рэгіёны ўзначальваліся апанэнтамі кіроўных рэжымаў.

У Беларусі ў гэтым пляне палітычная сыстэма абсалютна стэрыльная. Няма ніводнай выспы, ніводнага лапіка, які б мела апазыцыя ў палітычнай сыстэме. Тут жорсткі кансалідаваны рэжым, а апазыцыя чвэрць стагодзьдзя абсалютна пазасыстэмная. У гэтым таксама палягае моц рэжыму. Дзяржаўныя інстытуты абсалютна незалежныя ад грамадзтва. Таму маральна-псыхалягічны ціск народнага пратэсту на іх пакуль не прынесьць плёну.

І апошняе, цесна зьвязанае з папярэднім. Цягам чвэрці стагодзьдзя ня толькі дзяржаўныя мэдыя, але і ўся сыстэма ідэалягічнай працы займаецца татальнай дэманізацыяй праціўнікаў рэжыму. Афіцыйны ідэалягічны канструкт даводзіў, што ўвесь народ падтрымлівае Лукашэнку, для апазыцыі няма сацыяльнай базы, ёсьць толькі купка «адмарозкаў», замежных агентаў. То бок з 1990-х гадоў краіна існуе ў стане халоднай грамадзянскай вайны. Гэта часткова тлумачыць тую жорсткасьць, якую дэманструюць сілавыя структуры падчас задушэньня народнага пратэсту.

…Што тычыцца выніку супрацьстаяньня, то на яго больш уплывае хутчэй умяшаньне Расеі, чым пытаньне суадносін мірных і немірных мэтадаў.

**Валер Карбалевіч**

**Навіна з сайта: www.svaboda.org**

ЭКАНОМІКА

# ЧТО БУДЕТ С ЭКОНОМИКОЙ ПОСЛЕ ПРОТЕСТОВ?

**Поговорили с финансовым менеджером Сергеем Королем, о том, какое будущее ожидает белорусскую экономику в результате протестов и как из похожих ситуаций выходили другие страны в разное время. Сергей получил степень магистра в университете Джонса Хопкинса по специальности «Международная экономика и финансы», он также имеет степень Executive MBA института INSEAD и сертификат CFA (Chartered Financial Analyst).**

**Сценарий 1. В Беларуси без изменений: власть остается прежней, помогает Россия**

— Какие бы аналогии мы ни проводили с другими странами, они все равно будут отличаться. Но можно попробовать: например, с ходу приходят на ум две ситуации, которые вообще не вписываются в картину, поскольку то был период социализма. Это протесты в Чехии в 1968 году и в Польше в 1980-м, которые в обоих случаях не увенчались успехом: победило правительство с помощью внешних сил — Советского Союза.

Но интересно, что те же внешние силы, которые помогали подавлять протесты, в итоге были заинтересованы, чтобы в этих странах наступила стабильность. Поэтому в дальнейшем Советский Союз оказывал и экономическую помощь своим ставленникам в Чехословакии и Польше.

Если все закончится победой режима Лукашенко, то, наверно, это и есть самая близкая аналогия. Ведь тогда будет оказана со стороны России экономическая поддержка прежде всего в пользу режима.

В этой ситуации совершенно понятно, что будет сделано: Россия даст основательный кредит, измеряемый не миллионами, а миллиардами; могут восстановить схему субсидирования переработки нефти без тарифных обложений; могут сделать капитальные инвестиции в определенные предприятия (например, те, где наблюдался больший уровень недовольства) — все это вполне возможно. Но не бесплатно — ценой этому станет потеря суверенитета.

И с экономической точки зрения вполне возможно, что в Беларуси восстановление наступит очень быстро. Просто потому, что по отношению к экономике страны это достаточно большие объемы поддержки. Тогда, я бы сказал, возникнет не просто нормализация ситуации, но даже что-то похожее на подъем.

Правда, этот подъем будет иметь совершенно другую структуру: не такую, как в последние пять лет, когда такие элементы развития и роста в экономике Беларуси происходили из секторов будущего, связанных с интегрированием страны в глобальные процессы. Этот подъем станет временным и будет происходить из старых секторов (промышленный сектор советского периода), потому как новый сектор закроется, уедет, прекратит свое существование до тех пор, пока не возникнут благоприятные условия.

**Сценарий 2. В Беларуси без изменений: власть остается прежней, но мы идем по пути Китая**

Еще один пример и возможный сценарий развития — это Китай после восстания на площади Тяньаньмэнь. Изначально оно было подавлено, а затем, я бы сказал, и обезоружено. Китайские власти нашли возможности выпустить пар из движения протеста — и оно просто прекратилось так же спонтанно, как и началось.

Но вот что произошло в результате восстания: знаменитое китайское развитие, либерализация экономической жизни и интеграция страны в мировую экономику случилось именно после площади Тяньаньмэнь. Да, началось все раньше — за 10 лет «до», но достигло своего апогея уже по завершении этих событий.

Такой сценарий возможен и у нас, но его трудно себе представить в условиях Беларуси из-за внешнего фактора: для нас это возможно только в том случае, если каким-то образом будет найден хоть какой-то компромисс и сам режим осознает, что он не хочет впадать в зависимость от Москвы, а пожелает вернуться на путь развития.

Плюс отличие Беларуси от Китая в этой ситуации в том, что у последнего на тот момент было партнерство с крупнейшей экономикой мира — его уже тогда поддерживали США. А у белорусского режима партнерства нет ни с кем, кроме России.

Другие примеры сложно приводить, потому что всегда в таких ситуациях решающую роль играет то, что происходит после подобного политического кризиса. Допустим, в Европе после глобального финансового кризиса (2010-2011 годы) тоже было очень много недовольства — особенно в южных странах.

Но все это государства с относительно функционирующим демократическим процессом и без такого решающего внешнего влияния. В них произошло восстановление экономики вполне нормальным путем: сначала все упало, а потом по логике спроса и предложения постепенно восстановилось — в каждой из стран в разной степени.

Времени на это было потрачено тоже по-разному: в Испании быстрее — меньше чем 2 года, в Греции этот процесс занял 8 лет. Латвия в то время упала в полный штопор на 6 месяцев, но так же быстро из него и выбралась, потому что были быстро приняты очень крайние меры в виде шоковой терапии, которые и подействовали. Они могли себе это позволить, потому как страна ценит свою независимость и люди были готовы на все, чтобы ее сохранить.

В странах, в которых кризис вызван в первую очередь политическими причинами, как в Беларуси, пути выхода из него зависят от того, какой сценарий возьмет верх в решении противостояния в стране.

**Сценарий 3. В Беларуси все изменилось: протестующие взяли свое**

Есть большая вероятность, что будет так, как Лукашенко и сказал: все войдет в экономический штопор. И во время этого есть серьезный риск разграбления государственной собственности внутренними и внешними силами, главные участники которых — приближенные к власти люди. Это, скажем так, украинский сценарий развития ситуации.

Как заметил немецкий экономист Даниэль Крутцинна, в этом случае российское направление перекроется: цены на энергоносители станут мирового уровня, все преференции отпадут, возможно будут даже введены санкции, как минимум торговые. Тогда старая экономика пострадает еще больше, и все будет делаться так, чтобы представители российских сил получили ее за бесценок.

В данном случае потребуется очень большая поддержка со стороны европейских кругов. А как ее получить стране, которая даже не является членом ЕС? Этот очень привлекательный сценарий с точки зрения политики экономически рискованный. И как раз в этом случае можно ожидать масштабного кризиса.

Гражданское общество Беларуси удивило весь мир уровнем своей самоорганизации, но все-таки ее при подобном сценарии развития может не хватить, чтобы предотвратить крупное перераспределение собственности. Ведь в нем будут задействованы очень корыстные и мощные внешние, а также внутренние интересы.

Сейчас последние боятся того, что их самих посадят, а в условиях демократии этот элемент страха уйдет, и тогда они смогут достаточно быстро получить доступ к реальным активам. И в этой ситуации возможно и падение ВВП, и падение цен на собственность — продавать придется за бесценок, потому как иначе ее никто не купит.

*(скарочана)*

**Новость с сайта: gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.09.2020 у 15.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.